**Чытайце:** У СУСЕДЗЯЎ ЗА МЯЖОЙ · ГРЭХ У ВЕРАВАННЯХ БЕЛАРУСАЎ · ЦЯЖКОЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 30 (491) | ГОД X | 25 ЛІПЕНЯ 1965 ГОДА | ЦАНА 60 гр.



На другі бераг.

# КЛОПАТЫ ВОЙТА

Пасля выбараў грамадскія рады ўвайшлі ў нармальны трыб жыцця. Выбрана новыя склады прэзідыумаў, паклікана камісіі. Многія старшыні асталіся надалей выконваць свае функцыі. Зацікавіла нас праца ГРН, паколькі чуюцца неадпойчы на іх нараканні. Зразумела, недахопаў у нас многа і яны не мінаюць грамадскіх рад. Праца рады ў многім залежыць ад калектыву кіруючага ёю, а таксама ад уменняў і вопыту старшыні.

Трэба сцвердзіць, што хлеб старшыні ГРН нялёгкі. Прыгледзеліся мы клопатам аднаго з іх. Таварыш Ю. Гаворка, старшыня Прэзідыума ГРН у Орлі. Функцыю старшыні выконвае другую кадэнцыю. Кожны з яго сяброў мае многа клопатаў. Адны — простыя, штодзённыя, нармальныя. Іншыя — не штодзённыя і нават нельга назваць іх нармальнымі.

Вось, напрыклад, дрэнаванне поля ў Орлі. Дрэнаванне — рэч чядрэнная і арляне ахвотна падпісалі свайго часу на гэта згоду. У чэрвені прыйшлі рабочыя праводзіць дрэнажныя працы, але на полі якраз вырасла прыгожае збожжа, якое пачалі раскопваць рабочыя. Зацікаўленыя гаспадары пачалі ўносіць пратэст, гаворачы, што ім трэба «аддаваць збожжа ў дзяржаву» і «карміць сем'і», а за знішчэнне збожжа ніхто ім не заплаціць. Перш за ўсё дасталося «войту», якому ніхто і не сказаў, калі пачнуць працу. Людзі пачалі бунтавацца.

(Працяг на стар. 4)


У гэтым годзе грыбы не толькі смачныя але і даходныя.

# АКНО НА СВЕТ

У гаспадарках Снежак, Сасін і другіх вёсак сена заўсёды мела вялікае, а часта рашаючае значэнне. Сасінскі гаспадар сказаў:

— У нас як мае хто тры-чатыры гектары гаспадаркі, то з таго напэўна адзін гектар «лонкі».

Усе навакольныя вёскі знаходзяцца, пераважна паміж рэчкамі Нурэц і Нурчык, дзе ў мінулыя гады адбывалася тут — адна з найбольшых на Беласточчыне — меліярацыя дрыгвяністых абшараў. У выніку праведзенай меліярацыі і загаспадаравання павялічыліся накосы ўдвая або ўтрая, **ураджай сена дыктуе цяпер усё.**

Маючы многа сена можна трымаць больш кароў, ад якіх будзе больш малака на продаж і гною на ўгнаенне палёў, каб добра расло на іх. І на снежкаўскіх пятых - чацвёртых класах расце някепска. Пшаніца ўдаецца не горш, чым жыта. Яе намалот часамі даходзіць да пятнаццаці цэнтнераў з аднаго гектара. Добры ячмень, але авёс ужо многа слабейшы... Дарэчы з аўсом усюды бяда, не толькі на пагаркаватых палетках гэтай аколіцы.

— Забяры нам «лонкі» і мы прапалі, — сказаў той жа самы сасінскі гаспадар, бо нікога другога больш не сустрэў у апусцелай вёсцы. Усе на сенакосах. У Снежках напаткаў бібліятэкара, пажылога ўжо мужчыну, які расказаў мне, што меў расказаць, і хутка сабраўся на сенакос.

У суседнім Сабятыне будуюць новую малачарню, бо прыбывае кароў і малака. А сялу Сасіна крыўдна на душы, бо грузавік па сабятынскае малако ездзіць пазагуменню сасінскіх клуняў, ездзіць і не спыняецца. А мог бы ён спыняцца і забіраць сасінскае малако ў самых Сасінах, пашто людзям пярці яго аж да Сабятына дыяшчэ стаяць у доўгай чарзе цэлымі гадзінамі. Зімою ёсць час, але малака мала, а вясною і летам малака шмат, але няма часу насіць яго. Іншыя кормяць малаком свіней і, вядомая рэч, трацяць на заробку ад сваіх 113 дойных кароў.

Бельская малачарня, якая можа (і павінна) сарганізаваць малочны пункт у Сасінах, нячулая на прашэнні і плачы гэтай вёскі. Ёй што да таго?! Цяпер малака хоць утапіся, да самай восені...

Снежкаўская грамадская рада знаходзіцца на перыферыі Бельскага павета, адсюль далёка да Бельска і ад Бельска. Гэту перыферыйную сітуацыю адчуваецца тут на кожным кроку, у кожнай размове. Няма чым даязджаць да горада — да бліжэйшых аўтобусных паўстанкаў, як кажуць, блізкі свет. Паказвалі мне краму, якую будуюць-будуюць спецы гайнаўскай будаўнічай спулдзельні «Чын» і ніяк не могуць закончыць яе будовы. Падобныя абразкі і з іншымі будовамі ці планамі будовы школ, малачарскіх пунктаў і т.п.

Мясцовыя людзі стараюцца раўнацца да лепшага жыцця, не толькі ўмеюць дамагацца, але і будуюць самі тое, што могуць. У Сасінах хочуць пабудаваць чынам валапой, зрабілі адпаведныя выкапкі — дазяюць камень і жвір. Валапой будзе такі як у Белках або і лепшы! Шмат далажыўся народ пры будове дарог, якіх калісьці амаль не было зусім.. Жвіраванкі разыходзяцца ўжо ва ўсе кірункі ад грамадскай сталіцы Снежкі:

(Працяг на стар. 5)





## Будоўля

Міхалова, хаця памалу, але безупынна разбудоўваецца. Нядаўна распачалася тут яшчэ адна будоўля. Ставіцца будынак для спулдзельчай касы.

На здымку бачым новую будоўлю.

**Фота Паўлючук**

# ЦЯЖКОЕ ЖЫЦЦЁ БЕЛАРУСКАЙ КНІЖКІ

**ПА МАТЭРЫЯЛАХ СЕМІНАРА 1965 Г. У АЎГУСТОВЕ**

**У ніжэйшай спробе ітогу беларускага чытальніцтва ў Польшчы закрану такія пытанні:**

1. **Пакупка навінак.**
2. **Колькасць беларускіх кніг зараз.**
3. **Дзве дарогі беларускай кніжкі.**
4. **Геаграфія беларускай кніжкі.**
5. **Дзіцячая літаратура.**
6. **Чаму мала чытаем?**
7. **Роля бібліятэкі.**

**Да пункта 1.**

Гісторыя не новая, хоць прызвычаіцца да яе не змаглі. Пакупка навінак кульгае і мо штораз горш. Віна не наша, г.зн: не Дома кнігі, які прадае; не Ваяводскай бібліятэкі, якая купляе; не Міністэрства, якое дае дастаткова грошай; не «Палоніі», якая сцягае кнігі з заграніцы. У нас паўната добрай волі. Нітка рвецца недзе далей. Заказы рэалізуюцца паўгода — год часу. На заказ мінулага года 400 загалоўкаў — Ваяводская бібліятэка атрымала 20 і то зусім не такіх як заказвала. Нічога не выпадае, як толькі нізка падзякаваць і за гэта. Не магу тут толькі паўстрымацца, каб не сказаць, што украінскімі кнігамі украінцы добра забяспечаны, а вельмі добра літоўцы — літоўскімі.

**Да пункта 2.**

У нашых бібліятэках маецца 11.771 том беларускіх кніжак. На адну бібліятэку выпадае 212. На аднаго чытача — 4. Улічваючы факт, што каля паловы з гэтых кніг, гэта або паўтарэнні, або мнагатомныя выданні паэзіі, лік кніг прыгодных для чытання сучаснага чытача зменшыцца. Чытач не мае з чаго выбіраць і перспектывы, як вынікае з пункта 1, не выпадаюць ружова.

**Да пункта 3.**

Адна — гэта Ваяводская бібліятэка з яе густой, добра развітай, добра арганізаванай і здысцыплінаванай бібліятэчнай сеткай (наша бібліятэка знаходзіцца на чале бібліятэк у краіне). Другая — значна малодшая, больш непрацёртая сетка бібліятэк і пунктаў Галоўнага Праўлення БГКТ. Гэтыя бібліятэкі часта маюць някепскія кнігі, але не маюць ані сродкаў, ані фаховых сіл, каб уласціва весці бібліятэку. Кнігі не выкарыстоўваюцца поўнасцю. Публічная Ваяводская бібліятэка лічыць, што разумна было б пераняць кнігазбор тэрэновых бібліятэк і пунктаў Таварыства. Так было зроблена ў літоўцаў, і цяпер як Літоўскае таварыства, так і Бібліятэка вельмі хваляць свой крок.

**Да пункта 4.**

У пяці паветах Беласточчыны ёсць беларускія кнігі: Бельскі, Гайнаўскі, Беластоцкі, Сямяцідкі, Сакольскі. У Дуброўскім, хоць Бібліятэка старалася, не ўдаўся старт. (Мо' б сваім аўтарытэтам іменна таварыства спрабавала). Найлепш выглядае ў Гайнаўскім, дзе ва ўсіх бібліятэках ёсць беларускія кніжкі, і Бельскім. Горш у Беластоцкім, Сямяціцкім і Сакольскім. Чаму? Варта б праанілізаваць супольна: чаму ў Гайнаўскім чытаюць масава а ў Беластоцкім цяжка і мала?

**Да пункта 5.**

Кнігі для дзяцей — гэта ўваход у чытальніцтва, самаадукацыю і ўвогуле — культуру. Чым шырэйшы, чым прыгажэйшы, чым багацейшы гэты ўваход... На жаль, у нашай сітуацыі далёкі ён хоць да нейкага прыблізнага ідэалу. Таксама таму, што не дастаем (самі не выдаем) беларускіх кніжачак для дзяцей, каляровых і радасных. Справа гэтая цесна звязана з беларускімі школамі, з іх развіццём, з адукацыяй на роднай мове. Справа, як бачым, не благая і не вузкая. Дзеці ў нас ўмеюць, і ахвотна чытаюць па-беларуску.

**Да пункта 6**

Адказ на такое пытанне знойдзем па крысе ў папярэднім пункце. Але і кніжная база, якая ёсць надта не атракцыйная. Паэзія не можа быць хлебам штодзённым, так зрэшты, як і кнігі грамадска - палітычнага характару, пісаныя па беларуску, ці творы класікаў марксізма. У сярэднім беларускую кніжку пазычаецца 5,3 разы ў год (сярэдняя заяводская — 16). У гэтым беларусы далёка перагналі іншыя нацыянальныя меншасці, што сведчыць аб вялікіх магчымасцях беларускага чытальніцтва, абы было што. Цікава таксама, што колькасць чытачоў хоць памалу, але пастаянна з года ў год расце (у 1964 — 120 новых). Ва украінцаў, напрыклад, моцна спадае.

**Да пункта 7.**

Заахвочванне да чытання — рэч важная. Бібліятэкі вядуць розныя формы папулярызацыі кніжкі, таксама беларускай. І ёсць наказы, каб беларускую кніжку больш спапулярызаваць. Многа значаць увогуле ў чытальніцтве гурткі прыяцеляў бібліятэк. Мо' бібліятэкары супольна з актывістамі таварыства увялі б гурткі прыяцеляў беларускай кніжкі. У такім гуртку нават паэзія будзе ахвотна чытацца.

**ВЕРА ЛЯЎЧУК**

# Бівак у Пасынках

Падрыхтоўка кадры да «Нелагернага лета» ЗГП адбываецца ў біваках. Адзін з такіх курсаў давялося мне наведаць. Бівак сарганізаваў Зубаўскі раён у вёсцы Пасынкі, Бельскага павета. У састаў гэтага раёна ўваходзяць гарцэрскія дружыны з такіх вёсак як: Кожына, Локніца, Катлы, Пасынкі і Зубава. Камендантам біваку быў Янка Семянюк — кіраўнік школы ў Зубаве, а памагалі яму Данута Леговіч, Вера Матысюк і Мікалай Якубюк. Гарцэрам перашкаджала чэрвеньская, дажджлівая пагода, але гарцэрскія розумы і сэрцы не паддаліся яе капрызам. 34 гарцэры сарганізавана ў тры дружыны: спорту, культуры і дружына для працы з малодшымі школьнікамі. У час заняткаў вучні выканалі куклы, а на наступны дзень куклавае відовішча аглядалі дзеці з усяе вёскі Пасынкі. Арганізатары біваку поўнасцю да працы выкарысталі мясцовую святліцу і тэлевізар. У час летніх канікул дзецям будуць аддаваны у карыстанне ўсе культурныя прыборы.

Паколькі бівак быў двухдзённы, дзеці з Пасынак запэўнілі кватэры сваім калегам з аддаленых вёсак. Вялікае зацікаўленне і дапамогу аказалі бацькі. Надзя Манаховіч адпусціла сваю кухню, а таксама абдарыла мукой, перцам і іншымі артыкуламі гарцэраў, якія гатавалі супольны абед.

Адносіны пасынкаўскіх бацькоў да гарцэрскай арганізацыі і справы летняга адпачынку могуць быць прыкладам усім тым, каму дарагі лёс свайго дзіцяці. (ак)

## СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# АБ ЗООГІГІЕНЕ

У добра абсталяваным гаспадарскім будынку ёсць усё, што забяспечвае рух, чыстае паветра, святло, адпаведную вільготнасць. Некаторыя жывёлагадоўцы нават устанаўліваюць тэрмометры і вільгацемеры. Гэта нядорага і вялікая карысць. Нельга ж аддавацца на ласку лёсу, а трэба ўсім кіраваць.

У Бельскім, Сакольскім ці Сямяціцкім паветах можна спаткаць маленькія хлеўчыкі, нярэдка прыбудаваныя да хаты. З хлява цякуць раўчукі гнаёўкі, а ў хлявах-высокія кучы гною, летам — поўна мух. Такія ўмовы антыгігіенічныя як для людзей, так і для жывёлы. Няма чаго і марыць аб узросце прадукцыйнасці, бо ёсць вельмі шмат дзейнікаў, якія змяншаюць яе.

Адна з найбольш важных рэчаў у хляве — вентыляцыя. У будынку без вентыляцыі збіраецца шмат вуглекіслага газу, аміяку і іншых газаў, якія шкодна ўздзейнічаюць на арганізм жывёлы. Сістэматычнае ўдыханне такога паветра выклікае падражненне слізістай абалонкі, атручвае арганізм, аслабляе яго адпорнасць на хваробы.

Для праветрывання памяшкання служаць вентылятары. Найчасцей абмен паветра адбываецца на аснове рознай вагі паветра ў залежнасці ад тэмпературы. З гэтай мэтай будуюцца каналы, праз якія паветра выходзіць, і адтуліны на свежае паветра. Каналы павінны быць зроблены вертыкальна або пад вуглом не больш 30° Нутро іх павінна быць гладкім. Каналы выступаюць над дахам на 40—60 см. Папярэчнае сячэнне ад 0,12 да 0,72 кв. м. Справа ў тым, каб забяспечыць такое паветра, дзе хуткасць ветру не большая за 0,1 м/сек. Другая рэч — каналізацыя. Яна павінна спускаць сцекі ў адпаведнае месца. Найчасцей сцекі спускаюцца праз сіфон, які ахоўвае паветра ад газаў са сцекаў. Гнаёвую жыжку перыядычна вывозяць, напр., на лугі і пашы. Гэта вельмі добрае ўгнаенне пад многія расліны. Даецца найчасцей каля 10 тыс. літраў жыжкі на гектар, перад гэтым распушчанай у вадзе.

Варта яшчэ звярнуць увагу на розныя шкодныя крокі нашых сялян. Сустракаюцца яшчэ хлявы, пастаўленыя блізка як студні, ды яшчэ ў дадатак без спецыяльнага абсталявання для выцякаючай гнаёвай жыжкі. Гэтым мы ствараем умовы для разнашэння бактэрый і непатрэбна марнуем жыжку — такое добрае ўгнаенне.

Апрача таго, не ўсюды дэзінфекуюцца будынкі гашанай вапнай або іншымі сродкамі. Дэзінфекцыю трэба рабіць не радзей як два разы ў год — вясной і восенню. Такім чынам змагаемся з хваробаноснымі бактэрыямі. Калі выявілася заразная хвароба, абавязкова трэба зрабіць дэзінфекцыю моцнымі бактэрыябойчымі сродкамі.

**Інж. М. СУХАЖЭБРСКІ**

# КЛОПАТЫ ВОЙТА

(Працяг са стар. 1)

— Незадоўга прыехалі ўлады з Бельска, — гаворыць Ю. Гаворка. — Сабралося якраз многа людзей. Думаю цяпер то пераканаюць людзей. А начальства, як начальства. Адзін пайшоў у адзін канец дрэнаванага поля, а другі — у другі, а я ізноў застаўся сам - насам з людзьмі агрызацца.

Або пабудова святліцы ў Крывяцічах. Будуецца яна ад 1961 года. Зрабілі тут ужо столь, вокны, электрычную інсталяцыю, дах. Асталося толькі атынкаваць. На гэта даўно ГРН адвёў грошы. Але ад шасці месяцаў нідзе нельга дастаць будаўлянай вапны. ГС свайго часу нават выпісаў фактуру, але вапну прадаў якомусьці гаспадару. Што горшае, нават у павеце не могуць падказаць, дзе купіць вапну.

— Можа ў Беластоку, — дадае тав. Гаворка, — але транспарт будзе ў два разы даражэй каштаваць, як вапна.

У Бельскім павеце прынялася ініцыятыва, што калі якая-небудзь ГРН першай выканае план фонду пабудовы школ (СФБШ), атрымоўвае як узнагароду тэлевізар. Аб гэтым ведаюць не толькі працаўнікі ГРН, але і гаспадары з вёсак. Арлянская рада і актыў усё зрабілі, каб першымі выканаць план. І выканалі. А тэлевізар мелі аддаць у святліцу ў Кошкі. Прайшло больш як паўгода, а аб тэлевізары ні слыху, ні дыху. Проста з павета тэлевізара не далі.

— Ашукалі нас, — кажуць людзі. — А найбольш дастаецца мне, як старшыні ГРН, я ж ім абяцаў, так як і нам абяцалі.

Не ладзіцца справа са школай у Рудутах. Сяляне адмовіліся прыймаць у сваіх памяшканнях школу, паколькі, ўласнага будынку тут няма. Свайго часу паўстала думка пабудовы школы чынам. Нават у павеце іх падтрымалі. На школьны пляц звезена камень, гравій, зроблена чынам 700 пустакоў. Аднак работы затрымаліся, таму што больш імі ніхто не цікавіўся. У павеце сказалі, што такія працы — гэта дробязь. Школа будзе каштаваць каля 2 мільёнаў зл., у сувязі з чым рудутаўцы павінны ўлажыць 50% г.зн. 1 млн. зл. Зразумела, на такую суму ніхто не пайшоў, а тое, што зроблена — марнуецца. На адным са сходаў выказалі імкненне купіць драўляны дом і чынам перарабіць яго, тымчасова, на школу. Тав. Гаворка ў сувязі з гэтымі справамі пачаў ездзіць па аддзелах павятовай рады. З аддзела архітэктуры і будаўніцтва адказу яшчэ няма, а ў аддзеле асветы адзін з адказных працаўнікоў меў сказаць: «Што ж, войт? Выбралі вас на чатыры гады, то ўпраўляйце, а нам галавы не заварочвайце...»

Ад уласцівай дэцэнтралізацыі не бароніцца ніякая рада. Наадварот, успрыймае з задавальненнем і поўнаю адказнасцю за даверанья адрэзкі працы. У бягучым годзе ГРН у Орлі атрымала паведамленне, што ў рамах дэцэнтралізацыі, на бюджэт ГРН, пераходзіць дзетсад. І ўсё было б добра, каб не будынак дзіцячага сада. Ён спустошаны. Абавязкова праводзіць капітальны рамонт.

Павет давёў да такога стану будынак, а цяпер вельмі лёгка хоча збыць. А калі ўжо мы пераймем, — прадаўжае тав. Гаворка, — то пачнуцца візітацыі і кантролі аддзела асветы, дзе бесперапынна будуць нас крытыкаваць, што мы не праводзім капітальнага рамонту.

Гэта толькі некалькі з масы клопатаў старшыні грамадскай рады. Прыведзеныя прыклады гавораць, што грамадскімі радамі не трэба выпіхацца, а трэба ім дапамагчы.

**Ал. Кав.**

 

# КУРЫНЫ ГАРАДОК



Пасляабедзенны «шпацыр» брайлераў.

Спулдзельня прадукцыйная ў Крывой, Бельскага павета, праводзіць шматгалінную дзейнасць. У Зубаве, напрыклад, залажылі цэнтр гадоўлі брайлераў — гатунак курэй на мяса. Першыя кураняты сюды «прыехалі» ў студзені гэтага года. Аб цэнтры гадоўлі гаворыцца тут як аб «курыным гарадку». Таварыш Васіль Хаманюк — кіраўнік гадоўлі — гаворыць, што гэта сапраўдны гарадок, бо і будынкі мураваныя і лік жыхароў вялікі.

— Зараз, — расказвае тав. Хаманюк, — у нас налічваецца 18 тысяч куранят. Да 20 красавіка мы здалі 24 тысячы брайлераў, а каб ясней было гэта — 33 тоны мяса, якога патрабуе не толькі краёвы рынак, але і заграніца. За гэта на рахунак спулдзельні ўплыло каля 100 тыс. зл.

— Ці вы закончылі працу над разбудовай цэнтра і ці на гэтай колькасці агранічацца вашыя прадукцыйныя магчымасці? — зварочваемся да нашага размоўцы.

— Думаю, што незаспакою поўнасцю вашай цікаўнасці. Справа ў тым, што зараз у нас тры будынкі, а чацвёрты рыхтуем. Так што апошняга слова мы, пака, сказаць не можам, але даход, які атрымала спулдзельня за так кароткі час, сведчыць сам за сябе.

Персанал тут невялікі параўнальна да ліку «падапечных». У час нашай прысутнасці было ўсяго тры асобы: член спулдзельні Анна Іванюк, Каця Нікалаюк і Валя Вышкоўская. У недалёкай будучыні цэнтр гадоўлі будзе агароджаны, што дасць магчымасць на шырэйшыя формы гадоўлі.

А. К.



Валя Вышкоўская рыхтуе курыны «абед».

# Мастацкая выстаўка

У бельскім доме культуры экспанавалася выстаўка аматараў - мастакоў. Цікавыя працы паказвалі Косця Якімюк, Мікалай Несцяровіч, З. Марціняк і Я. Вайтовіч. З алейных прац на ўвагу заслугоўваюць: «Вясна», «Гамлет» К. Якімюка; «Кампазіцыя» — З. Марціняка выкананая адным колерам з цікавай развязкаю. Цікавую па зместу графіку паказаў М. Несцяровіч, настаўнік пачатковай школы ў Орлі. Тут залічыць трэба такія працы, як: «Бельскі ратуш», «Каплічка ў Орлі», «Партрэт жанчыны». Як акварэліст на выстаўцы выступіла Аліна Вайтовіч. Экспанаваліся вельмі старанна выкананыя карціны Аляксандра Шчэрбаня, які выступіў, як пейзажыст.

Арганізатары выстаўкі заслужылі на ўвагу. Выстаўка цешылася папулярнасцю сярод жыхароў Бельска. Аб гэтым сведчыць вялікая колькасць наведвальнікаў. Важна і тое, што ў першыню сабраліся мастакі - аматары ў калектыве. А мо' гэта будзе завязка нейкага мастацкага гуртка? Так сярод прысутных, як і самых аўтараў адбыліся першыя неафіцыяльныя размовы.

У сувязі з тым насоўваюцца думкі, што бельскімі аматарамі - жывапісцамі павінны зацікавіцца і дапамагчы ім ўстановы і спецыялісты з Беластока. Штопраўда, некаторыя карціны «пахнуць» копіяй, але ў тым здаецца вінавата няўпэўненасць аб сваіх сілах аўтараў прац.

А.К.

# Малы клопат

У Зубаве пабудавана новую краму. Людзі вельмі задаволены, таму што гэта адна з першых інвестыцый пабудаваных грамадскім чынам. Стаіць яна амаль што ў цэнтры вёскі на пляцы, які купіў ад дзяржавы бельскі ГС. Усё было б добра, калі б не трухлявая, саломаю крытая хата, якая стаіць побач. З'яўляецца яна ўласнасцю ГС, які разам з пляцом купіў яе. У хатцы ніхто не жыве і не збіраецца жыць. Разводзяцца тут мышы ды шчуры, якія пачынаюць наведваць суседзяў, а незадоўга пачнуць хадзіць у краму (калі ўжо не ходзяць). Жыхары Зубава непакояцца і іншай небяспекай. Так як хатка гэта небяспечна, вельмі лёгка можа ўспыхнуць пажар, а тады цяжка будзе ўратаваць не толькі краму, але суседнія дамы.

У грамадскай радзе нам сказалі, што ГС хатку хоча прадаць, але дорага цэніць і таму ніхто не хоча купіць. Верым ГС-у. Ён умее прадаваць у крамах і на кірмашы. Хатамі не гандлюе, але ад імя жыхароў Зубава просім гэтым заняцца пагаспадарску, без маржы.

(ак)

# За старыя вербы—новы паўстанак ПКС

Многія, а перад усім старэйшыя, людзі многа гаварылі аб старых, прыдарожных вербах, якія пасціналі дарожныя ўлады. Штопраўда, на месца іх пасаджана новыя, маладыя. Але старыкам балела сэрца за дрэвы, якія ўсё ж такі памяталі цара. А зрэзалі іх на тое, каб не пагражалі праязджаючым дарогаю. Маладшыя з іроніяй падказвалі, што прадалі іх на гарэлку.

А яно зусім не так. Напрыклад, ГРН у Пасынках прызначыла гэтыя грошы на пабудову паўстанка ПКС. Ужо адведзена месца, навезена гравію і каменняў, ёсць будаўнічы матэрыял. Не атрымалі ў пору дакументацыі. А гэту справу — паводле слоў старшыні ГРН — заваліў павет. А шкада. Сёлета людзі многа мокнуць.

(ак)

# Разумныя гаспадары

Сельскагаспадарчыя гурткі на тэрыторыі ГРН Орля цешацца не малымі дасягненнямі. Гэтыя дасягненні перад усім ацэньваем па даходах. І так: у Крывяцічах за 1964 г. выпрацавана 62 тыс. зл. даходу, у Рудутах — 32 тыс. зл., Шарнях — 18 тыс. зл. і ў Орлі — 20 тыс. зл. Аб такіх высокіх даходах, перад усім, сведчыць дбайнасць людзей пра грамадскую ўласнасць. Напрыклад, у Крывяцічах ёсць вельмі дбайны дыспетчар — Мікалай Мураўка. Машыны ў яго заўсёды ў абсалютным парадку. Ён вучыць людзей дбаць пра грамадскую маёмасць так, як пра сваю ўласнасць, а нават і больш, бо яна з'яўляецца ўласнасцю вёскі і служыць усім людзям.

Не менш важнай справай з'яўляецца адпаведнае назначэнне выпрацаванага даходу. Павінен ён падносіць не толькі матэрыяльны бок вёскі ці гуртка, але і падносіць агульны ўзровень культуры. Даволі разумна праводзіць гэта Праўленне сельскагаспадарчага гуртка ў Рудутах. Паколькі няма тут ніякага культурнага цэнтра (няма нават школьнага будынка), купілі яны за гэтыя грошы тэлевізар і нанялі памяшканне на светліцовыя заняткі. Сюды кожны вечар збіраюцца людзі, каб глядзець тэлевізійныя перадачы. Трэба адзначыць, што прыходзяць усе людзі: і тыя гурткоўцы і несарганізаваныя ў сельскагаспадарчым калектыве.

Прыклады такой працы прыносяць многа карыснага для развіцця сацыялістычнай гаспадаркі на вёсцы, паднясення яе культуры, і што тут гаварыць, прывязваюць да вёскі нават маладых.

А. К.

# Медаль за заслугі

Супрацоўніцтва Музея рэвалюцыйнага руху ў Беластоку з Падляшскай часцю КБВ знайшло фінал ва ўручэнні Музею медаля «Служым Айчыне — Народнай Польшчы» прызнанага Міністрам унутраных спраў.

Медаль уручыў камандзір часці

вл.

# „ЖАРТЫ КАНСЕРВАТАРАЎ"

Старшыня Прэзідыума ГРН у Рыбалах і аграном гэтай грамады знайшліся дня 29 чэрвеня 1965 года на акраіне свае грамады ў вёсцы Давідавічы. Вёска Давідавічы распаложана ля мяжы з іншым (Беластоцкім) паветам, а ў суседняй вёсцы гэтага павета, у Астроўках, працаўнікі Беластоцкага энергетычнага прадпрыемства праводзілі так званую «кансервацыю» лініі электрычных правадоў.

Чым яны «кансервавалі» гэтую «лінію», аўтару інфармацыі невядома. Вядома тым часам, што раз'язджаліся яны па суседніх вёсках Бельскага і Гайнаўскага павета шукаючы т. зв. «чыстай звыклай». У вёсцы Давідавічы нечакана сутыкнуліся з прадстаўнікамі мясцовай грамадскай рады: старшынёю і аграномам. «Кансерватары» былі якраз у мясцовай краме, куплялі гарэлку, курылі папяросы, нягледзячы на выразны надпіс: «курыць забаронена» і галасілі нязносна. Старшыня ГРН асмеліўся зрабіць шаноўным госцям заўвагу, што паводзяць сябе непрыстойна. «Кансерватары» паслалі старшыню куды трэба і прадаўжалі свае гульні.

Старшыня ГРН выйшаў з крамы і паспрабаваў запісаць нумар самахода. Гэтага не маглі ўжо сцярпець нецярплівыя «кансерватары» і пастанавілі... заарыштаваць старшыню ГРН і прысутнага тут агранома. Гвалтам увапхнулі іх у самаход і павязлі ў бок вёскі Астроўкі. Ад'ехаўшы некалькі кіламетраў ад Давідавічаў пачалі «лігітымаваць» старшыню ГРН. Адабралі ад яго ўсе дакументы, а самога пусцілі да хаты. Ад'ехаўшы яшчэ некалькі кіламетраў увольнілі і агранома.

Дакументы старшыня ГРН атрымаў з рук гэтых жа самых «кансерватараў» на другі дзень раніцаю. Перапрашалі яны шчодра старшыню ГРН і тлумачылі, што гэта быў толькі такі сабе... жарт. Ці не замнога, аднак, любяць жартаваць шаноўныя госці з Беластока? Справай павінны зацікавіцца адпаведныя ўлады. (п)




(Працяг са стар. 1)

да Сасін (1,5 км), канчаюць дарогу ў напрамку Гайнаўшчыны, да Дашоў (2,6 км), Белкі летась таксама дагледзелі 150 метраў дарогі, якую акапалі і навазілі на яе жвіру. Ёсць даўно абдуманы намер пабудаваць чынам дарогу ад Сасін да Мілейчыцкай шашы.

Будова дарогі да Мілейчыцкай шашы мае першараднае значэнне для Снежкаўскай старонкі. Гэта шаша праходзіць ад местачковых Мілейчыц праз Быстры, Нурэц, Дубна да Боцькаў, што распалажыліся паабапал шляху Беласток — Сямяцічы — Люблін. Зрэшты, гэта шаша не ўсюды ёсць шашою, месцамі звычайным пясчаным гасцінцам, але затое з добрымі мастамі. Практычна, брук пакладзена ўсяго на палавіне яе даўжыні, мо' крыху больш. Засталося так сказаць, дабрукаваць яшчэ каля шасці кіламетраў і ўжо маглі б ездзіць аўтобусы з Мілейчыц да Боцькаў і далей. Прыснежкаўскія вёскі знаходзяцца ад гэтай шашы ўбок па 1—2 кіламетраў — гэта шаша была б ім праўдзівым акном на свет, які далёка гудзіць маторамі па кляшчэляўскай ці сямяціцкай шашы. Бельскі раён публічных дарог абяцае заняцца гэтымі шасцьмі кіламетрамі ўжо... у 1967 годзе. Вёскі просяць - моляць кіраўнікоў раёна, каб хутчэй — каб ужо зараз, у гэтым годзе, ну, найпазней у другім, 1966 г. Чынуададуць столькі, колькі трэба...

Снежкаўская гаспадарка бурна развіваецца і ёй надта патрэбна пастаянная камунікацыйная сувязь, патрэбен рух!

Патрэбна акно на свет!

(С.Я.)

фота аўтара



На здымку: крама ў Снежках будуецца-будуецца...



 

